**14 лютага** ў катастрофе кітайскай ракеты „Доўгі Марш” 3В згінула 5 асоб, а 57 было параненых.

**17 лютага** ЗША выпусціў у космас касмічны зонд Near Shoemaker для даследавання планетоід.

**22 лютага** 75 старт у ЗША (STS-75) па праграме Спейс шатл і 19 палёт шатла „Калумбія” з касманаўтамі Эндру Аленам, Скотам Харовітцам, Джэфры Хофманам, італьянцам Маурыцыем Келім, швейцарам Клодам Нікольем, Франклінам Чанг-Дыасам і італьянцам Умбертам Гуідоні. «Калумбія» прызямлілася 9 сакавіка.

**25 лютага** ў тэракце аўтобуса ў Ерусаліме згінула 26 асоб, а 80 было параненых.

**29 лютага** ў катастрофе Боінга-737 ля Арэкіпы ў Перу згінулі 123 асобы.

**29 лютага** закончылася асада сербамі Сараева, якая цягнулася 1 395 дзён.

**3 сакавіка** ад бомбы падкладзенай у аўтобусе ў Ерусаліме палестынцамі згінула 19 ізраільскіх грамадзян.

**4 сакавіка** самабойца з Гамаса падарваўся ў Тэль-Авіве ля Цэнтра Дызенгофа. Згінула 13 асоб і 125 асоб было параненых.

**13 сакавіка** вар’ят у шатландскім горадзе Думблянэ ў школе застраліў 16 дзяцей і настаўніцу і сам застраліўся.

**18 сакавіка** ў пажары начнога клуба ў Квезон-Сіты на Філіпінах згінула 162 асобы, а 95 было параненых.

**22 сакавіка** 76 старт (STS-76) у ЗША па праграме Спейс шатл і 16 палёт шатла „Атлантыс” з касманаўтамі Рычардам Сірфосам, Кевінам Чылтонам, астранаўткай Ліндай Годвін, касманаўтамі Майклам Кліфордам, Ранальдам Сегам і касманаўткай Шэнон Лусід. „Атлантыс” трэці раз прыстыкаваўся да расійскай касмічнай станцыі „Мір” 24 сакавіка, а расстыкаваўся 29 сакавіка. Прызямліўся „Атлантыс” 31 сакавіка без касманаўткі Шэнон Лусід, якая затрымалася на расійскай касмічнай станцыі „Мір” да новага прылёта шатла «Атлантыса» з палёта (STS-79), які разам з ёй прызямліўся 29 верасня.

**26/27 сакавіка** ноччу ў Алжыры ісламскія тэрарысты захапілі сем французскіх манахаў з кляштару трапістаў у Тыбхірыне. 30 мая ля горада Ал-Мідыя знайшлі іх адрэзаныя галовы.

**27 сакавіка** забойца ізраільскага прэм’ер-міністра Іцхака Рабіна габрэй Амін быў засуджаны на пажыццёвае зняволенне.

**Дзмітры Шатыловіч**

*Працяг будзе*

***Васіль Петручук***

# *Крышынкі*

***70***. Спадар рэдактар, раней я сказаў, што дам некалькі прыкладаў свайго пакутнага існавання. Але не буду паўтараць гэтага, што ўжо дзесьці напісаў, бо многа чаго трэба было б паўтарыць, а гэта было б на аб’ём другой кніжкі, якая лупіла б раны майго сэрца і скалечаных пабоямі мазгоў. Было гэтага многа, а я спалучу прыклад глыбокага дзяцінства – квартачку з шаснаццацігадовым хлопцам, які ў 1942 годзе выкасіў, значыць, управіў лонку на сена.

Калі прыйшлі сенакосы, бацька быў хворы, дык я сам пайшоў (не ведаю чаму не паехаў як усе людзі) пад Малочкі, паеўшы поснага кулешыку і з кавалкам хлеба ў торбачцы нават без бутэлькі малака касіць свой участак. Выкасіў, мокрую рызуху на спіне павыносіў далёка на груд, высушыў і паскладаў у стагі будучы галодным як той сабака, бо бацькі кімсьці перадалі мне яшчэ кусок хлеба і жменьку ўнутранага сала, якое я глынуў за адзін раз. Не ведаю, бо не памятаю колькі трывала гэтая мая касьба, але памятаю, што да свята Пятра і Паўла, бо ўсе людзі паехалі дамоў святкаваць, а я касу на плячо і таксама павалокся дадому, бо ўжо ўсё, што трэба, зроблена. Адолеў 15 кіламетраў і дайшоў да «свайго» сялка ледзь цягнуўшы ногі. Калі дайшоў да хаты Грышы Бароўскага, пачуў голас Тэкелькі: «Варка, чы то нэ Воська пушоў?» Варка Антанюк: «Васька, Тэкелько». Тэкелька: «Божэ, якій худый!» Варка: «А дэ ж вуон будэ клусты, як ёму на болото навэть хліэба нэ послалі». Не ведала бедная добрая душа, што раз прыслалі не толькі хлеба, але і сала, якое я глынуў як сабака муху.

Прышоў я на падворак, павесіў касу на ліпу і бадай бацькі не ўбачылі як уваходзіў у сені, бо адчыніўшы дзверы ў хату я пачуў: «Ну, бэрыэтэ шчэ по ложці, бо вынэсу». І «мама» ў мяне пад носам вынесла варэнне з чорных ягад у камору. Я заплакаў і палез з рукою ў чыгун са свінячай бульбай, які стаяў на пліце. З чыгуна вылецеў рой мух, бо я ім, бедным, перашкодзіў як і сямейцы таты з мамай ласавацца чорнымі ягадамі. Я еў смакавітую бульбу, прыгатоўленую свінням, а тата хіба з зайздрасцю прыглядаўся моўчкі.

Цяпер я хачу спытацца ў абаронцаў майго шматгадовага к**а**та, дзе ў апісаных двух здарэннях відаць маю віну, якая вымагала б абароны «беднай» мачыхі і судзіць мяне за даносы на яе? Панства, бессаромныя ілгуны, што гэта за даносы, каб згідзіць мачыху, калі я пішу аб сваім подлым існаванні? Не я даношу, а на мяне даносілі: у 1942 годзе нямецкаму солтысу, што я прывожу дадому вінтоўкі, у 1944 г. у НКВД

у Кляшчэлях, што я вораг Савецкага Саюза, бо ўкраў вепрука і жупіцу.

Прыехала ў нядзеню зімою ў Грабавец трох энкавэдыстаў і сярод іншых пытанняў спыталіся ў мяне, што такое жупіца. Я сказаў, што гэта адзенне з сукна падобнае да шыняля. Гэта было ў хаце Хведарука, куды мяне адзін з энкавэдыстаў выклікаў з хаты Грышы Бароўскага, дзе ўбачыў у вокнах твары дзяўчат цікавых хто гэта прыехаў і нас, хлопцаў. Калі я выходзіў з хаты, ён сказаў: «Вазьмі паліто». Я адказаў, што я не маю ніякага паліта. Прабралі іх ад сволачэй, а мне далі адрас куды маю прыехаць «если паразиты будут цепляться». У 1945 г. мачыха данесла на міліцыю ў Кляшчэлі, што я ёй не даю жыць і зноў украў у яе вепрука. Дурны бляхар пазваў мяне ў Кляшчэлі і прыгразіў, што калі не перастану знуткавацца над маткай, то ён выцягне з гэтага такую справу, што пашкадую што нарадзіўся ды прагнаў мяне дамоў. Яшчэ толькі дадам, што калі паехалі энкавэдысты, то я ішоў дадому на абед, бо ж мы разам жылі. Я ішоў з Панасам Панасюком. Ззаду ішоўшая ад брата мачыха падбегла і так дала кулаком мне ў нос, што пацякла кроў, я нічога не сказаў, а калега на гэта: «Васька, то ты даешся коб такая бладзь тэбэ была?!» Прыйшоўшы дадому меў усё схаванае ў камору пад замок, і нават хлеб на ключ схаваны. Яна з дзецьмі была ўжо пасля абеду. Я, кавалер, як збіты сабака, пайшоў да дзядзькоў. Там расказаў сітуацыю і дастаў паесці. Дзядзіна Надзя, ставіўшы на стол талерку, сказала: «На, поеж, бо тая сморкавка бачыш якая халера!»

На заканчэнне яшчэ дадам тое, чаго ніколі і нікому нідзе не сказаў і не напісаў, але цяпер скажу, каб ведалі тыя, хто мне верыць. Сярод агідных хамскіх вартых толькі праклёнаў быў і такі, аб якім я будучы малым не ведаў, а пасля, на жаль, даведаўся і цяжка гэта пераносіў, а я найчасцей чуў: «Коб ты був у пыздыэ зогныв!»

А маёй віною былі такія выбрыкі: я плакаў, бо есці хацеў, пакідаў дзіцё на панадворку і выходзіў за вароты да калег, або калі з-пад абруска ўшчыпнуў хлеба, бо заўсёды быў галодны. Бог толькі адзін ведае, як я выжыў і аж столькі праіснаваў у такіх умовах, якія сабе вырыхтаваў сваім розумам і характарам.

*(Працяг будзе)*



# *Рэцэнзіі, прэзентацыі*

## Абяднанне! Захоп? Анексія...

Так складваецца ў чалавечай цывілізацыі, што гісторыя асобнай краіны павінна стасавацца з дзяржаўнай ідэалогіяй, таму доля аб'ектыўнасці яе часцяком бывае непразрыстай. У жорсткія часы гісторыя „ствараецца", каб падмацаваць рэжым. Пры гэтым не толькі апускаецца шлагбаум для непажаданых гістарычных прац, але і блакіруюцца напрамкі работы гісторыкаў (або нейтралізуюцца самі шукальнікі ісціны) і знішчаюцца дакументальныя першакрыніцы.

У савецкія часы гісторыя Беларусі (тады – БССР) пачыналася з канцэпцыі „Да рэвалюцыі Беларусь была адсталай ускраінай Расійскай імперыі". Перабудова „паглыбіла" беларускую гісторыю: яна цяпер пачыналася з таго, што сын ключніцы Уладзімір Вялікі згвалтаваў полацкую княжну Рагнеду і забіў яе бацьку Рагвалода. Трохі пазней для ажыўлення нацыянальнай ідэі дзеячы Княства Літоўскага змянілі ролю прыхадняў-захопнікаў, якія знішчылі сляды сваіх папярэднікаў, на гістарычнае амплуа мясцовых патрыётаў, якія калі і ўступалі ў хаўрус або клаліся пад пратэктарат, дык толькі для карысці краіны.

Цяпер неўпрыкмет зацёрхваецца савецкі перыяд 1970-80-х – параў-




нанне не на карысць сучаснай хранічна хворай эканоміцы з пастаяннай інфляцыяй і рэгулярнымі крызісамі невідавочнага паходжання.

Прыцягальнасць гістарычнай навукі – у пошуках праўды, якой бы яна ні была. І ва ўсе часы былі падзвіжнікі, якія прыкладалі намаганні, каб расставіць усё на свае месцы.

Удалай спробай разабрацца ў падзеях 75-гадовай даўніны з'яўляецца кніга маладога беларускага вучонага Анатоля Трафімчыка „1939 год і Беларусь: Забытая вайна", выдадзеная ў 2014 годзе ў выдавецтве А. М. Янушкевіча. Можа падацца, што гэта не тая даўніна, у якой магчыма кардынальна змяніць укаранёнае дзесяцігоддзямі ўяўленне. Аднак 75 гадоў – гэта дыстанцыя „прадзед–унук", калі пацвердзіць або абвергнуць пісьмовыя сведчанні рэальнай шчырай размовай немагчыма. Светапогляд і прыярытэты грамадства за гэты час таксама мяняюцца кардынальна.

Задача, якую паставіў перад сабой і паспяхова выканаў Анатоль Віктаравіч, пазначана на нахзацы: „паглядзець на пачатак Другой сусветнай вайны з рацыі беларускіх палітычных і нацыянальных інтарэсаў". Падобны ракурс прывёў аўтара да абгрунтаванай думкі „Другая сусветная вайна пачалася для Беларусі менавіта ў 1939 годзе, а не на два гады пазней пасля нападу Германіі на СССР". Калі і бачыцца ў гэтай выснове нейкая рэвалюцыйнасць, дык толькі ў параўнанні з гісторыяй СССР, якую вывучалі тры пакаленні беларусаў. Ды яшчэ, магчыма, у разуменні беларусамі вайны ў абавязковай повязі з традыцыйна высокай гібеллю насельніцтва. Трэба сказаць, што калі з архіваў здымаюцца грыфы, інфармацыя з дагэтуль невядомых дакументаў даволі хутка пранікае ў грамадства. Аднак на тое і тэрміны засакрэчвання, каб новыя факты цікавілі ў першую чаргу даследчыкаў. Асобы, якія спрычыніліся да іх стварэння або пэўным чынам зведалі іх дзеянне, зніклі ў плынях часу, ды і сам дзяржаўны лад змяніўся. Тым не менш заўсёды важна не толькі агучыць новае бачанне, але і зацвердзіць яго ў навукова-даследчых працах.

Пошук ісціны, жаданне прасвятліць незразумелыя пытанні або аспекты ідзе ад дзяцінства, калі Сусвет проста павінен быць справядліва і правільна ўладкаваным. Так і для ўраджэнца заходнебеларускай вескі Вялікія Круговічы Анатоля Трафімчыка адпраўнымі пунктамі з'явіліся чутыя ў дзяцінстве загадкавыя выразы „за польскім часам", „першыя саветы", за якімі не было ніякіх тлумачэнняў. Хіба толькі фальклорна-гумарыстычная ўзгадка, што „пры Польшчы дзверы каўбасой завязвалі".

Несумненна, апроч умення працаваць з архівамі, выслухоўваць папярэднікаў-спецыялістаў і раіцца з імі, для гісторыка даследчыка важнымі з'яўляюцца аналітычны розум, інтуіцыя і здольнасць абагульняць шматтэмны і разнамасны матэрыял, уласная незаангажаванасць да вынікаў.

Як і належыць сур'ёзнаму даследчыку, перад тым, як падысці да азначанай тэмы, Анатоль Трафімчык аналізуе папярэднія падзеі: ад заканчэння Першай сусветнай вайны і наступстваў рэвалюцый. І таксама робіць гэта ў ракурсе ўплыву еўрапейскага і сусветнага раскладу на беларускую гісторыю – як непасрэднага, так і верагоднага, бо несумненна, што буфернасць нашай тэрыторыі асабліва задзейнічана падчас перадзелаў, інтрыг вялікіх дзяржаў і дзяржаў-суседзяў. Прычым, ацэньваюцца не толькі фактаалагічная або дакументальная кампаненты – яшчэ праследжваецца іх узаемаўплыў. Пры тым, што любыя падзеі і іх імавернасць у выніку праецыруюцца на нашу тэрыторыю, эмацыйныя ацэнкі гістарычных асоб, дзяржаў, дзеянняў і выказванняў адсутнічаюць – Анатоль Віктаравіч вытрымлівае нейтралітэт дзеля аб'ектыўнасці.

Трэба сказаць, што гісторыі войн пішуцца хоць і праз некаторы час пасля іх заканчэння, аднак даволі хутка. Таму правамернай уяўляецца некаторая карэкціроўка, дакладней, перамена ракурсу. Тым больш да стварэння гісторыі ў тыя часы краіна не мела ніякага дачынення.

Несумненна, большая ўвага ў кнізе „1939 год і Беларусь: Забытая вайна" нададзена Заходняй Беларусі, бо менавіта гэтая частка была больш рухомай у кантэксце статуса і больш няўстойлівай у сацыяльна-псіхалагічнай адаптацыі насельніцтва. І, напэўна, у перыяд „верасень 1939 – чэрвень 1941" войны для Усходняй і Заходняй Беларусі былі рознымі – па першапачатковай дзяржаўнай прыналежнасці цягам апошніх дзесяцігоддзяў. І нават мяжа паміж імі пасля верасня 1939 годзе не стала ўмоўнай. Што ж, савецкія салдаты ведалі, што ідуць у Польшчу, а заходнія беларусы адчувалі, што гэтым не скончыцца.

Хочацца паўтарыць, што для свядомасці беларусаў вайна – велізарныя чалавечыя і матэрыяльныя страты, змена (часам неаднаразовая) улады і пасляваенныя „калабарацыянісцкія разборкі". А такія „дробязі", як поўнае знішчэнне вертыкалі ўлады, эміграцыя, люстрацыя спецыялістаў, высылкі, пры-

зывы ў дагэтуль варожую армію і нават расстрэлы „па падазрэнні ў нелаяльнасці” – звыклыя жыццёвыя калізіі. Пры ўсёй павазе да традыцыйнага нацыянальнага крэда справядлівай падаецца тэза, што гвалт – заўсёды гвалт. Незалежна ад сілы, накірунку і маштабу супраціву. А выжыванне беларуса падчас катаклізмаў, якія здараюцца на нашай тэрыторыі – у жартоўна-дзіцячым заклiку „Хавайся ў бульбу!”, што падчас міждзяржаўных перыпетый рэалізуецца партызанскімі або падпольнымі згуртаваннямі.

У Анатоля Трафімчыка да форм рэпрэсій агульначалавечы, а не нацыянальны падыход: даследчык разглядае іх ад фізічнага знішчэння і арышту да звальнення і навязвання ідэалогіі. А ў якасці прыкладаў супраціву і падаўлення яго ўладамі даследчык бярэ канкрэтны сектар: сферу асветы і навучання як паказальны зрэз грамадства.

Кніга „1939 год і Беларусь: Забытая вайна” не загрувашчана спецыяльнай тэрміналогіяй. Аднак і не грашыць спрошчанасцю дзеля папулярызацыі. Унутраны камертон дазволіў аўтару беспамылкова выбраць патрэбныя інтанацыі, пазбегнуць ментарства і не парушыць раўнавагу непрадузятасці. І адначасова Анатоль Трафімчык не выкладае патрэбныя яму аргументы, а паказвае абстаноўку ў цэлым і прапануе адсачыць заўважаныя ім тэндэнцыі і прыйсці да аналагічных высноў.

Такі адкрыты расклад робіць даследванне даступным не толькі для навукоўцаў, а і для аматараў гісторыі.

Не хацелася б спыняцца на падрабязных аспектах або прыводзіць асобныя цытаты: аб’ем кнігі „1939 год і Беларусь: Забытая вайна” не такі вялікі, каб канспектаваць яе ў рэцэнзіях, а наклад не такі і малы, каб не было магчымасці яе знайсці тым, хто мае інтарэс да ўласнай гісторыі.

**Юрась Нераток**

## Narew wciąga




Książka „Z biegiem Narwi” to kolejna publikacja Fundacji „Sąsiedzi”, zapraszająca do odwiedzenia naszego regionu. Autor książki, Jerzy Samusik, podróżnik i eksplorator najbardziej egzotycznych miejsc planety, tym razem zaprasza nas w podróż do niemniej ciekawej krainy rozciągającej się od źródeł do ujścia Narwi, którą śmiało można nazwać bijącym sercem Podlasia. Publikacja, pięknie wydana na kredowym papierze, jest świetną propozycją dla osób pragnących odwiedzić ten uroczy wielonarodowy zakątek Polski.

Narew od wieków łączyła różne narody, regiony i kultury. Biorąc początek w ostępach Puszczy Białowieskiej, na terenie dzisiejszej Białorusi, toczy swój bieg przez podlaską Krainę Otwartych Okiennic, by wpłynąć na przestronną, równinną ziemię mazowiecką. Wzdłuż jej biegu nie brak pamiątek przeszłości, począwszy od starożytnych grodzisk i kurhanów, przez drewniane wioseczki prawosławnych chłopów, szlacheckie dworki polskiej szlachty, katedry, cerkwie i zabytkowe fortyfikacje wojenne. W każdym z dwudziestu rozdziałów autor przybliża nam wybrany odcinek rzeki i wyłuskuje to, co w nim najciekawszego i godnego uwagi z punktu widzenia przyrodniczego, historycznego czy kulturowego.

Podróż zaczynamy tuż przy wschodniej granicy od Zalewu Siemianówka, by płynąc w dół rzeki zajrzeć do dawnych miasteczek Narew i Narewka, odwiedzić ludowego rzeźbiarza we wsi Kaniuki, podglądać ptaki w „polskiej Amazonii”, czyli Narwiańskim Parku Narodowym, zajrzeć do Choroszczy – miasta hetmańskiego czy Tykocina, w którym rezydował król Zygmunt August. Stąd niedaleko już do Łomży, którą autor uznaje za stolicę narwiańskiej krainy i Nowogrodu, w którym możemy zjeść kurpiowski rejbak, by następnie pochodzić po najdłuższym rynku Europy w Pułtusku. Przygodę z Narwią kończymy nad Zalewem Zegrzyńskim, gdzie spragnieni kontaktu z naturą warszawiacy żeglują i wypoczywają w licznych ośrodkach letniskowych.

Książka łączy w sobie cechy przewodnika, zbioru opowieści o regionie i albumu fotograficznego, w którym autor uwiecznił nie tylko zabytki i odwiedzane miejscowości, ale również bogactwo flory i fauny narwiańskiej przyrody. Swoje opowieści autor okrasza mnóstwem ciekawostek historycznych i legend, nie pomijając jednocześnie wydarzeń współczesnych, które odciskają swój ślad na życiu mieszkańców i kształtują dzisiejsze oblicze narwiańskiej krainy. Sporo uwagi poświęca opisom przyrodniczym i problemom ekologicznym, które zrodziła intensywna melioracja, czy tworzenie sztucznych zbiorników, a także staraniom wielu ludzi dobrej woli, na przykład społeczników z Polskiego Towarzystwa Ochrony Ptaków, którzy nakładem tytanicznej pracy prowadzą rekonstrukcję starorzeczy, aby przywrócić rzece równowagę biologiczną. Podglądacze ptaków znajdą wskazówki, gdzie udać się, by zobaczyć rzadkie gatunki zagrożone w skali globalnej i europejskiej, jak np. bataliony, bekasy czy cietrzewie. Na kartach książki spotkamy ludzi, którzy tworzą ducha tej krainy, lokalnych pasjonatów

którzy nakładem własnych sił i środków urządzają muzea, prowadzą wykopaliska archeologiczne czy organizują życie kulturalne w swoich miejscowościach.

Mnie osobiście zafascynowała historia „strażników historii", czyli rodziny Litwińczuków ze starożytnego Suraża, która od dwóch pokoleń gromadzi zabytki archeologiczne, wykopywane na polach lub w nieczynnych żwirowniach. Ich przygoda z historią rozpoczęła się, gdy Władysław Litwińczuk przed wojną wyorał na własnym polu narzędzia neolitycznych kultur. Od tej pory przeistoczył się w archeologa-amatora i niezmordowanie wydobywa z suraskiej ziemi krzemienne groty strzał, kościane drapacze, czy toporki sprzed 4500 lat. Pasję po nim przejął syn, który zorganizował muzeum, w którym możemy zobaczyć zgromadzone zbiory, aczkolwiek nie będzie to łatwe, bowiem znalezisk jest tak dużo, że nawet pobieżne ich obejrzenie zajmuje kilka godzin. Pasja państwa Litwińczuków okazała się zaraźliwa. Suraska młodzież zrekonstruowała średniowieczną osadę, w której od kilkunastu lat odbywają się festyny archeologiczne „Grodzisko". Ta niezwykła historia zainteresowała mnie na tyle, że odwiedzenie Suraża stało się potrzebą wręcz palącą. A takich historii w książce jest wiele, dlatego jej przeczytanie to jak zanurzenie się w odmętach Narwi – wciąga i uzależnia na tyle, że chce się tu powracać.

**Ewa Zwierzyńska**

**Barbara Goralczuk**

## Narow

Narwo, Narwo dorohaja,
Teczesz ticho, niby czas,
Wesnoj wodu rozliwajesz,
Lietom kuliszsia sama.

Nod toboju prolitajut,
Chmary, albo żurawli,
Biełу liebiedi siadajut,
I wsiech ich pryjmajesz ty.

Poisz koni, ludi, bydło,
Nesesz pieśni i tuhu,
Dajesz chołod w lietni skwary,
Tryszczysz lodom w czas zimy.

Szumisz ticho trościnoju,
Tam chowajućcia ptaszki,
I tobie wonie śpiwajut
Pieśń podiaki od wesny.

Narwo, ryeczko wsio żywaja,
Hładżu dłońju twoju toń,
Twoi tajny puodhladaju,
Ty mnie miła, jak muoj duom.

## Naukowcy zbliżają ze sobą Polskę i Białoruś

W dniach 22-24 czerwca 2015 r. w Wisznicach odbyła się XXIV międzynarodowa konferencja naukowa z cyklu *Polsko-białoruskie związki kulturowe, literackie i językowe*. Organizatorami tegorocznej edycji byli Zakład Białorutenistyki Instytutu Filologii Słowiańskiej UMCS, Zakład Historii Krajów Europy Wschodniej Instytutu Historii UMCS, Zakład Edukacji Międzykulturowej Instytutu Pedagogiki UMCS, Polskie Towarzystwo Białorutenistyczne, Podlaska Fundacja Wspierania Talentów w Białej Podlaskiej oraz Stowarzyszenie „Razem dla Wisznic". W konferencji wzięło udział ponad czterdziestu naukowców z Polski (Lublina, Warszawy, Białegostoku, Wrocławia, Olsztyna, Bielska-Białej), Białorusi (Mińska, Homla) oraz Niemiec (Oldenburga).

Uczestników konferencji uroczyście przywitał przewodniczący komitetu organizacyjnego, prof. dr hab. Siarhiej Kawalou – pracownik zakładu białorutenistyki Instytutu Filologii Słowiańskiej UMCS w Lublinie. Serdeczne życzenia owocnych obrad i twórczych dyskusji przekazali zebranym w Wiszniach gościom – w imieniu konsula Białorusi w Białej Podlaskiej, Vladislava Khallo – wicekonsul Siarhiej Aliaksiejeu oraz prof. dr hab. Michał Sajewicz – dyrektor Instytutu Filologii Słowiańskiej UMCS w Lublinie i przewodniczący Polskiego Towarzystwa Białorutenistycznego.

Na posiedzeniu plenarnym obradom przewodniczyli prof. dr hab. Halina Twaranowicz (Uniwersytet w Białymstoku) oraz dr hab. Mikałaj Chmialnicki (Białoruski Uniwersytet Państwowy w Mińsku). Jako pierwszy referat *Беларуская тапанімія ў часы Рэчы Паспалітай* wygłosił Ihar Kapyłou z Narodowej Akademii Nauk Białorusi. Iryna Bahdanowicz z Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku omówiła wiersz *Kraków* Adeli z Ustronia pod kątem jego powiązań z poematem *Macocha*, Gun-Britt Kohler z Uniwersytetu w Oldenburgu analizowała problematykę polską na stronach czasopisma *Nasza Niwa*, Helena Głogowska z Olsztyna przedstawiła dzieje i profil pisma *Białoruski dzień* na tle czasopiśmiennictwa białoruskiego okresu 1927-1928, a Nina Barszczewska z Uniwersytetu Warszawskiego zaprezentowała projekt badawczy Katedry Białorutenistyki UW *Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia*.

Po przerwie obradowały trzy sekcje: historyczno-kulturowa, językoznawcza i literaturoznawcza. Pierwszej przewodniczyli Helena Głogowska i Wiktoryja Bareckaja z Homla. Jej uczestnicy i wolni słuchacze zebrali się w sali konferencyjnej urzędu gminy w Wisznicach. Wygłoszono jedenaście referatów, poświęconych tematyce zarówno dawnej (Witold Kołbuk z KUL-u, *Duchowieństwo unickie w środowisku społecznym na ziemiach nadbużańskich w XVIII i XIX wieku*; Irena Matus z Uniwersytetu w Białymstoku, *Deklarowanie gotowości przejścia na prawosławie duchownych unickich w obwodzie białoruskim w latach 1836-1839*), jak i współczesnej (Ireneusz Makuchowski, *Wybory na Białorusi w latach 1994-2010 na łamach „Gazety Wyborczej" i „Rzeczpospolitej"*). Szczególne zainteresowanie badaczy wywołała historia ziem polskich i białoruskich w okresie pierwszej i dru-

giej wojny światowej (referaty wygłosili między innymi Piotr Bednarz z UMCS, *Prasa szwajcarska wobec sytuacji na Białorusi w 1915 r.*; Dariusz Tarasiuk z UMCS, *Los uchodźców na Białorusi w 1915 r. w świetle „Diariusza" Michała Stanisława Kossakowskiego*; Mariusz Korzeniowski z UMCS, *Wpływ uchodźców na rozwój polskiej oświaty w guberniach białoruskich w latach I wojny światowej*; Roman Wysocki z UMCS, *Kwestia białoruska w polityce Rządu RP na uchodźstwie w latach 1939-1944*). Referaty były poświęcone Józefowi Piłsudskiemu i jego stanowisku wobec białoruskiego ruchu narodowego (Mirosław Szumiło z UMCS), różnicom kulturowo-religijnym jako komponentowi wiedzy i poglądów Polaków na temat wielokulturowości (Ilona Nowakowska-Buryła i Marzena Okrasa z UMCS), paralelom polsko-słowacko-białoruskim w pieśniach obrzędowych (Galina Kutyriowa-Czubała z Bielska-Białej).

Tematyka siedmiu referatów wygłoszonych w ramach sekcji językoznawczej, której przewodniczyli Nina Barszczewska oraz Ihar Kapyłou, oscylowała wokół różnych aspektów pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego (M. Olejnik z UMCS, *Pogranicze polsko-wschodniosłowiańskie w świetle nazw terenowych*; M. Kojder z UMCS, *Nazwiska patronimiczne z formantem „-uk" w inskrypcjach nagrobnych na wybranych cmentarzach południowego Podlasia*; M. Koper, *Mikrotoponimia na pograniczu polsko-ukraińsko-białoruskim*), a także wybranych zagadnień dotyczących polsko-białoruskich i białorusko-polskich wpływów językowych (Wiktryja Ułasiewicz z Narodowej Akademii Nauk Białorusi, *Новыя і актуалізаваныя запазычанні з польскай мовы ў беларускай мове пачатку XXI ст. і іх адлюстраванне ў лексікаграфічных выданнях*; Anastasija Marozawa z NAN Białorusi, *Запазычанні з польскай мовы як лексічны кампанент варыянтнай пары*; Jadwiga Kozłowska-Doda z UMCS, *Semantyczna kategoria ilości w świetle gramatyk, poradników, podręczników współczesnego języka białoruskiego*).

W sekcji literaturoznawczej, której przewodniczyli Iryna Bahdanowicz z Mińska oraz Ihor Nabytowycz z UMCS, wygłoszono dziesięć referatów, z których każdy został poświęcony twórczości wybranego pisarza w kontekście jego związków z najbliższym sąsiadem, Polską lub Białorusią. W centrum uwagi literaturoznawców z Białorusi znalazła się twórczość Juliana Ursyna Niemcewicza (Aliena Mankiewicz z NAN Białorusi), Melchiora Wańkowicza (Mikałaj Chmialnicki z Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku) oraz proza białoruska z lat 20. ubiegłego wieku (Iwan Nawumienka z BUP w Mińsku). Z kolei badacze polscy zaprezentowali wyniki swoich analiz twórczości Maksima Hareckiego (Katarzyna Drozd z UW), Janki Bryla (Anna Alsztyniuk z Uniwersytetu w Białymstoku), Swiatłany Alieksijewicz (Sylwia Kryńska-Kawka z UMCS), Masieja Siadnioua (Halina Twaranowicz z UwB), Salomei Pilsztynowej-Rusieckiej (Ihor Nabyowycz z UMCS) oraz Kastusia Tarasaua (Siarhiej Kawalou z UMCS).

Międzynarodowa konferencja naukowa *Polsko-białoruskie związki kulturowe, literackie i językowe* od lat zasłużenie cieszy się dużą popularnością w polskim i białoruskim slawistycznym środowisku naukowym. Tu spotykają się zarówno filolodzy, jak i historycy, socjolodzy, muzykolodzy, etnografowie, religioznawcy. Wyniki swoich badań prezentują zarówno uznani, zasłużeni dla dialogu polsko-białoruskiego naukowcy, jak i badacze rozpoczynający karierę naukową. Zadaniem konferencji jest nie tylko rekonesans badawczy, ale także konsolidacja polskiego i białoruskiego slawistycznego środowiska naukowego oraz nakreślenie kierunków dalszej współpracy. Tradycją organizowanej naprzemiennie w Polsce i Białorusi konferencji z cyklu *Polsko-białoruskie związki...* jest życzliwa, sprzyjająca zwłaszcza młodym naukowcom, atmosfera oraz podejmowanie przez referentów dotąd niezbadanych lub mało opracowanych zagadnień badawczych. Jak co roku, wszystkie referaty wywołały ożywioną dyskusję. Organizatorzy planują publikację wygłoszonych na konferencji referatów w roczniku naukowym *Studia Białorutenistyczne*, wydawanym od 2007 r. przez Uniwersytet M. Curie-Skłodowskiej w Lublinie.

**Agnieszka Goral,**
**Dariusz Tarasiuk**

## Wzruszające spotkanie ze śpiewem operowym

W niedzielę, 23 sierpnia br. Michał Skiepko, jeden z najlepszych polskich tenorów, i orkiestra kameralna z Grodna (Białoruś) przyjechali na spotkanie z mieszkańcami gminy Narewka. Koncert odbył się przy pięknej słonecznej pogodzie w amfiteatrze nad rzeką Narewką w godzinach popołudniowych.

Artysta operowy pochodzi z malowniczej wsi Pasieki koło Siemianówki, a dzięki swoim uzdolnieniom operowym wystąpił w wielu znakomitych operach i zwiedził niemal pół świata.

Michał Skiepko dał się poznać z pięknego głosu już w szkole podstawowej w Siemianówce. Potem były zespół białoruski w Białymstoku i Centralny Zespół Artystyczny Wojska Polskiego. Od 1971 roku śpiewał w najlepszych teatrach operowych w kraju – w warszawskiej Operze Kameralnej, w Teatrze Wielkim w Warszawie i w Teatrze Wielkim w Łodzi. W 1987 roku występował w Niemczech. W jego repertuarze są m. in. „Straszny dwór" i „Hrabina" Stanisława Moniuszki, „Traviata" i „Rigoletto" Giuseppe Verdiego, „Poławiacze pereł" George'a Bizeta, „Król Roger" Karola Szymanowskiego i wiele innych wspaniałych oper.

Michał Skiepko chętnie występuje na białowieskiej scenie i jest gwiazdą

„Białowieskich spotkań z arią”. Śpiewał także na letnich masowych imprezach w większych wsiach w „swojej” gminie – w Siemianówce, Lewkowie Starym i w Narewce.

Niedzielny koncert prowadziła z wprawą Katarzyna Bielawska, instruktorka Gminnego Ośrodka Kultury w Narewce. Serdecznie powitała przybyłych na imprezę mieszkańców gminy Narewka oraz Hajnówki. Gorąco powitała artystów operowych, Michała Skiepko, Marinę i Włodzimierza Gorowojów, oraz grodzieńską orkiestrę kameralną.

Podczas koncertu wybitni śpiewacy operowi występowali solo, w duecie i w tercecie. Po mistrzowsku wykonali piękne utwory operowe twórców dramatów muzycznych światowej sławy. Wiele utworów, w tym tańce węgierskie i intermedia zagrała znakomita grodzieńska orkiestra. Koncert został przyjęty owacyjnie. Były dodatkowe wykonania utworów na życzenie słuchaczy, na „bis”. Michał Skiepko serdecznie podziękował publiczności za przybycie, a wójtowi gminy Mikołajowi Pawilczowi za zaproszenie do Narewki.

**Jan Ciełuszecki**


Fot. Jan Ciełuszecki

**Koncert operowy w amfiteatrze w Narewce. Z prawej Michał Skiepko**

## *Плёткі старой цёткі*

Хто там дзе плявузгаў, што чытэльніцтва памірае. Нічагусенькі не памірае, а наадварот – узрастае і калосіцца. Вырашыла я нядаўна распячатаць сваю гадавую беларускую візу атрыманую па сакрэтных дыпламатычных каналах, не буду казаць якім чынам, бо ўжо больш не дадуць, а магчыма і гэтую з пашпарту вырвуць. Дык вось сабралася я на кніжнае мерапрыемства ў сам Мінск, прыхапіла з сабой кілаграмаў пяць вэнджаных кумпякоў, з пустымі рукамі ж не ехаць. На граніцы мяне не выкрылі, бо я ўсё пад спадніцай везла, а старую бабу нікому распранаць не захочацца. Ну бо паверыць, што ў некага такія кумпякі ад прыроды думаю немагчыма, пра тое што вагон пах як вэндзільны камбінат наогул маўчу.

Дабралася я на месца. Там ужо сабраліся розныя літаратурныя піжоны, барадатыя, памятыя, апухлыя, не літаратурнае мерапрыемства, а Басовішча нейкае. Ну я туды-сюды ў пошуках скандалу шусь-шусь, ажно доўга шукаць не прыйшлося. Нейкая ўскудлачаная фіфа тэатральна разрывае на вачах у кавалера кніжку, дае яму поўху і сыходзячы тыцае парваную на дзве часткі кнігу мне: „Наце, бабуся, бо я гэтага чытаць не буду”. Іш ты, сучка бясхозная, хацела была сказаць я, але не змагла прамовіць агаломшаная гэтакай абразай.

Я разгарнула кніжыцу, а дакладней кажучы адну адарваную частку, а там ручкай ледзь не на кожнай старонцы выведзеная пазнака тыпу: „дурань”, „боўдзіла”, „абы-што”, „х...я”, „што???”, „каб ты ўкіс”, „даўбак” і таму падобнае. Вось вам і жывы доказ таго, што літаратура наша не толькі жыве, але яшчэ і ўзбуджае. А калі ёсць жарсць, то значыць і дзеці калі-небудзь з гэтага будуць. Праўда, няма пэўнасці, што менавіта ў гэтых дваіх.

– Гэта мая кніжка, у сэнсе я яе напісаў, – сказаў маладзён расціраючы на шчацэ сваю поўху.

– Хоць бы імёны памяняў, месца акцыі перанёс бы ў іншае месца, больш метафараў і алегорый, менш гіпербалаў і парабалаў, – у форме майстар-класу ўпікнула я.

– О, я бачу, вы добра разбіраецеся ў літаратуры, таму пакіньце гэтую кніжку сабе, – сказаў хлопец і мармычучы нешта сабе пад нос сышоў.

Пасьля мерапрыемства, на банкеце, я намагалася выведаць пра той скандал нешта болей, але ў прысутных раты былі пазабіваныя маім кантрабандным кумпяком, і нічога ўцямнага я ў выніку так і не пачула.

*Гэля з Грэдэляў*

P.S. Кніжку прадала па частках у культурніцкія ўстановы Беласточчыны. Яшчэ маю 4 блокі цыгарэт і 2 пляшкі гарэлкі. Калі каму трэба, самавываз з Грэдэляў.



**Towarzystwo Przyjaciół Białowieży powstało pół wieku temu, z inicjatywy doc. dra Janusza Bogdana Falińskiego – kierownika Białowieskiej Stacji Geobotanicznej Uniwersytetu Warszawskiego oraz pracowników miejscowych placówek naukowych, parku narodowego i szkoły podstawowej. Stowarzyszenie to zapisało piękną kartę w dziejach miejscowości. W ciągu blisko dwóch dziesiątek lat istnienia zorganizowało wiele pożytecznych i atrakcyjnych imprez, które...**



**Дарога ў жыццё і ў літаратуру пачалася ў Вячаслава Чамярыцкага з вёскі Рабкі Дзятлаўскага раёна, дзе ён нарадзіўся летам 1936 года. Маці была звычайнай хатняй гаспадыняй, а калі сям'я з Рабкоў пераехала ў Наваградак, пэўны час працавала на маслазаводзе. Бацька быў будаўніком, майстрам на ўсе рукі. Ён у 1937 годзе купіў каля Наваградка зруб, перавёз яго ў горад, а потым пабудаваў дом. Там сям'я Чамярыцкіх перажыла ўсе...** (далей у наступным нумары)


# Czasopis

Nr indeksu 355038, ISSN 1230-1876.
**Wydawca**: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich.
**Adres redakcji**:
Białystok, ul. Lipowa 4/221.
**Adres do korespondencji**:
„Czasopis”, 15-001 Białystok, skr. p. 262. **E-mail**: redakcja@czasopis.pl
http://czasopis.pl
Tel. (85) 653 79 66

**Redaktor naczelny**: Jerzy Chmielewski, tel. 502 661 316. **Zespół redakcyjny**: Wiesław Choruży, Helena Kozłowska-Głogowska, Sławomir Iwaniuk, Magdalena Pietruk, Tomasz Sulima (sekretarz redakcji), Jerzy Sulżyk.
**Stali współpracownicy**: Piotr Bajko, Siarhiej Czyhryn, Tamara Bołdak-Janowska, Agnieszka Goral, Mirosława




Łuksza, Janusz Korbel, Mateusz Styrczula, Dorota Wysocka, Ewa Zwierzyńska.
**Druk**: Zakład Poligraficzny ARES, Białystok.

**Prenumerata**: Odpowiednio do liczby zamawianych egzemplarzy i okresu prenumeraty należy wpłacić wielokrotność 4 zł na rachunek: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich: Bank PEKAO S.A. Białystok 30 1240 5211 1111 0000 4928 9343.
Беларускі грамадска-культурны часопіс, прысвечаны пытанням сучаснасці, гісторыі, літаратуры і мастацтва, месца чалавека ў свеце. Форум думкі беларусаў і ўсіх тых, каму блізкая беларуская тэматыка. Пазіцыі аўтараў тэкстаў не заўсёды адпавядаюць пазіцыям рэдакцыі. Не публікуюцца матэрыялы, якія прапагандуюць камуна-фашызм, расізм, нацыянальную варожасць.

Artykuły i listy publikowane są – o ile autor nie życzy sobie inaczej – w języku oryginału: po polsku lub białorusku. Redakcja zastrzega sobie prawo do skrótów, zmian tytułów i redagowania nadesłanych tekstów.
Materiałów nie zamówionych redakcja nie zwraca.
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
Numer złożono 29 sierpnia 2015.